Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 12. Вільня, Нядзеля, 23-га сакавіка 1924 г. Год I.

## „Ніякіх лятуценьняў!“

Польскую палітыку ў адносінах да беларусаў можна схарактэрызаваць красамоўнай народнай прыказкай:

— Б'юць і крычаць не даюць.

Б'юць на кожным кроку, б'юць абдуманна і балюча. Ня толькі шомпаламі ў паліцэйскіх засьценках, „выбіваючы прызнаньні да віны“, як сказаў п. Божэнцкі,—віны часта выбражальнай, фальшыва узьведзенай: б'юць яшчэ больш балюча *маральна*, топчучы ботамі душу народную, бэсьцючы усё, што дорага сэрцу беларуса. А калі перасьледаваны на кожным кроку народ беларускі моцным голасам праз сваіх выбраньцаў у Сойме на ўвесь сьвет заяўляе свой пратэст проці палітыкі зьдзеку і гвалтаў, — яго вінаваціць у „варожасьці да Польскае дзяржавы“ і... заклікаюць урад да ўзмацаваньня уціску.

Такім крыкам пратэсту было апошняе выступленьне ў Сойме пасла Тарашкевіча ад імя Беларускага Пасольскага Клюбу, які адмовіўся далучыць свой голас да пастановы польскіх партыяў у справе Клайпэды,—пастановы, каторая па свайму сэнсу зьяўляецца, паміж іншым, пагрозай незалежнасьці братняга нам літоўскага народу. Прадстаўнік беларускага насяленьня, якое пакутуе пад уладай Польшчы, напомніў пры гэтым аб цяжкіх крыўдах нашага народу і выставіў дамаганьне ўсіх беларускіх выбаршчыкаў, каб Заходняй Беларусі была дадзена *поўная аўтаномія*.

Тая бура, якая ўсьлед за гэтым узьнялася ў эндэцкай прэсе, найлепш паказуе адносіны польскага грамадзянства да такога натуральнага, элемэнтарнага жаданьня беларусаў атрымаць магчымасьць самым гаспадарыць на сваёй зямлі. І мы глыбока пераканаты, што і справу аўтаноміі сустрэне той самы лёс, які сустрэў усе нашы дамаганьні, нават прызнаныя справядлівымі і польскай канстытуцыяй, і міжнароднымі трактатамі. „Gaz. Warsz.“ зусім шчыра заяўляе, што нішто ня здолее прымусіць Польшчу вырачыся яе „гістарычнае місіі“, якая зьмяшчаецца ў апалячываньні беларусаў.

Эндэкі сваімі шчырымі выступленьнямі робяць беларусам вялікую прыслугу: яны разьвяваюць тыя „безсмысленныя мечтанія“, якія йшчэ нядаўна былі даволі пашыраны сярод некаторых кругоў нашага грамадзянства, абаламучанага ілжывымі адозвамі і абяцанкамі п. Пілсудскага. „Point des rêveries!“ — вось, што абвяшчае нам польская правіца пры красамоўным маўчаньні „вызваленцаў“ і пэпээсаў....

„Ніякіх лятуценьняў!“—Запраўды, грунту для лятуценьня ў нас ужо быць ня можа. Беларускае пытаньне ў Польшчы настолькі ўжо дасьпела, што за ўсялякую цану трэба знайсьці для яго разьвязку. І ў шуканьні разьвязкі павінен нам дапамагчы голас нашага народу, нашых шэрых працоўных масаў.

Мы падаем нашаму Пасольскаму Клюбу гэткую думку, якую трэба было-б зьдзейсьніць чым хутчэй: яна іменна і можа найлепей выявіць думкі і настроі масаў у сучасны мамэнт. Ува ўсіх Беларускіх выбарных акругох на сьпісках кандыдатаў № 16 зьмешчана сярэднім лікам па 6—10 іменьняў людзей, якім народ сваім галасаваньнем даў мандат выступаць ад яго імя ў польскім Сойме. Але з кожнага сьпіску папалі ў паслы ня ўсе, а толькі па 2, 3, 4. Рэшта-ж лічыцца *кандыдатамі* і можа ўвайсьці ў Сойм у кожын мамэнт, калі-б хто з беларускіх паслоў зрокся, ці быў пазбаўлены мандату. — Вось, Беларускі Пасольскі Клюб павінен узяць на сябе ініцыятыву і склікаць на нараду ўсіх гэных кандыдатаў, пастаўленых у сьпіскі сялянскімі выбарнымі зьездамі. Такая нарада, выяўляючы настроі беларускае вёскі ў сучасны мамэнт, можа шмат дапамагчы нашым паслом у вызначэньні іх далейшае тактыкі ў Сойме і даць магутнае падтрыманьне ў іх парляманцкай барацьбе за волю і жыцьцё нашага народу пад уладай Польшчы.

Паўтараем: беларускае пытаньне ў Польшчы лішне ўжо дасьпела, і раз сама Польшча яго вырашыць ня хоча, дык беларусы будуць прымушаны вынесьці яго *на міжнародны грунт*. Ведама, такі крок выкліча новы выбух нацыяналістычнага шалу ў польскім грамадзянстве, выкліча новыя рэпрэсіі проці беларусаў. Але мы ўжо дайшлі да таго палажэньня, пры якім *ня маем больш што траціць*. Трэба толькі крэпка згуртаваць нашыя сілы, трэба ўзмацаваць наш адзіны дагэтуль палітычны фронт і ўчыніць усё, чаго вымагае ад нас жыцьцё, чаго вымагаюць жыцьцёвыя інтарэсы нашага працоўнага народу.

## Як вырашана Радай Лігі Народаў справа Клайпэды.

На паседжаньні 14 сакавіка Рада Лігі прыняла праект Клайпэдзкай Конвэнцыі, „вырашыўшы“ нарэшце „справу Клайпэды“.

Мы ўжо пісалі аб важнасьці Клайпэдзкай справы, як для нашага Краю, таксама і наагул—бо у ёй найлепей адбіваецца той *новы ўклад* сіл, уплываў і сымпатыяў у высокай эўрапэйскай палітыцы, арэнай якое зьяўляецца Ліга Народаў...

Конвэнцыя мае форму дагавора паміж вялікімі дзяржавамі, якія ў Вэрсальскім Трактаце пакінулі сабе правы ўласнасьці, ці „сувэрэнытэту“, на Клайпэду, з аднаго боку, і—Літвой, з другога.

Цэласьць Клайпэдзкай праблемы, як ведама, складаецца з 3-х справаў: Аўтанамічнага Статуту для Клайпэдзкага абшару, Партовага Ураду і транзыту па Нёману.

Статут дае вельмі шырокую аўтаномію Клайпэдзе, але бязсумліўна ня менш рашучы ўплыў на справы будзе мець *губэрнатар* Клайпэды, які назначаецца прэзыдэнтам Літоўскай Рэспублікі.

Портам упраўляе Рада Порту, якая складаецца з 3 сяброў: — аднаго назначае Дырэктарыят (урад) Клайпэды, другога літоўскі прэзыдэнт, трэцяга—„эканамічнага экспэрта“—Ліга Народаў.

*Паляка ў Радзе Порту ані ў Дырэкторыі Клайпэды няма...*

Калі прадстаўнік ПАТ'у запытаў скрыўджана ў ген. Daviśa, аўтара праекту,—чаму-ж няма, дык той адказаў, што гэта—дзеля таго, што *„Клайпэда цікавіць ня толькі Польшчу, але й Расею і Нямеччыну“*—аб якіх „амбасадоры“ год таму — бо 16/II—1923 г. зусім н'ат ня ўспаміналі..

І вось *першае паражэньне* Польшчы ў Клайпэдзкай справе — у тым, што Рада порту фактычна будзе, нават паводле Конвэнцыі, *у літоўскіх руках*.

Статут стварае для Польшчы толькі „раўнапраўе“ ў Клайпэдзе і ў яе „маючым міжнароднае значэньне“ порце — нароўні з кожнымі іншымі „общокраёўцамі“...

---

Што зусім бязспрэчна,—Польшча атрымала права (як і кожны з апошніх..) штосьці „прывязьці, злажыць і вывязьці“ з порту... Але-ж, каб скарыстаць з гэтага права, трэба перадусім мець права і магчымасьць *праехаць у абодвы канцы па Нёману*...

І вось, якраз гэтая галоўная справа *транзыту* па Нёману найцямней высьветлена ў Конвэнцыі..

Як ведама, Вэрсальскі Трактат „пастанавіў зрабіць Нёман *вольным міжнародным шляхам*.

Але-ж ня трэба забываць, што гэтая інтэрнацыяналізацыя Нёману была ў сувязі тады з тымчасовай „інтэрнацыяналізацыяй“ амаль ня ўсей Заходняй Беларусі, аб правох на якую Польшчы ў Вэрсальскім Трактаце няма ані воднага слова, але наадварот — вельмі выразна казала аб іх вядомая „лінія Кэрзона“.

І вось дамагацца „сьціслага выкананьня трактатаў“ і пазывацца на гэтыя 331—335 арт. Вэрсальскага Трактату, *пасьля* „бунту“ ген. Жэлігоўскага і „orzeczenia Віленскага Сойму“, як робяць гэта найпаважнейшыя польскія публіцысты, дапраўды неяк нялоўка...

Дзіўна таксама жаліцца, што Барцэлёнская Конвэнцыя (у справах комунікацыі) зьмяніла, ці „зацямніла палажэньне рэчаў у найвялікшай ступені („Kur. Polski“ № 75). Бо-ж Барцэлёнская Конвэнцыя адбылася ў 1921 г., значыць — *пасьля* пагвалціўшага ўсе падпісаныя Польшчай трактаты „бунту“ ген. Жэлігоўскага, які, трэба прызнаць, таксама *зьмяніў* і „зацяміў палажэньне“ на Нёмане „у найвялікшай ступені“.

І вось, адзін з артыкулаў гэтай Конвэнцыі і дазваляе Літве *зусім зачыніць* „вольны міжнародны“ Нёманскі шлях, калі тыя ці іншыя „паважныя выпадкі“ могуць „награжаць бясьпечнасьці ці жыцьцёвым інтарэсам гаспадарства“..

І мы ведаем, што ўжо колькі гадоў Літва моцна і цьвёрда стаіць на грунце гэтай статьці Барцэлёнскай Конвэнцыі, пазываючыся на *„састаяньне вайны з Польшчай“*...

А наколькі цяпер у гэтым галоўным пункце новая конвэнцыя—Клайпэдзкая — заступіла Барцэлёнскую, зараз пабачым.—

Перадусім — ніякая конвэнцыя ня зможа *адкінуць* гэтае забясьпечанае ў Барцэлёне права Літвы бараніць сваю „бясьпечнасьць“ і свае „жывотныя інтарэсы“.

Вельмі важна для зразуменьня „перадзелу“ ўплываў і сымпатыяў у высокай палітыцы ў Эўропе, што яшчэ так нядаўна вялікія дзяржавы мелі цьвёрды замер *рашуча націснуць на Літву* і змусіць яе адкрыць нёманскі шлях для Польшчы, пагражаючы *затрымаць да таго* перанясеньне з сябе на Літву „сувэрэнітэту“ над Клайпэдзкім абшарам.

Але пакуль яны надумоўваліся, Літва сама вырашыла справу Клайпэды т. ск. „па-польску“.. — Будрыс, з сваімі сынамі, што даўно ўжо перасталі лятуцець аб „łaszce synowej“, напросту захапілі Клайпэду „па-жэлігоўску“.

„Хітрасьці“ гэтага Будрыса аднак хапіла на тое, каб забясьпечыць сабе пэўнасьць, што з прычыны гэтай „авантуры“ ня будзе фатыгавацца ангельскі флёт... і—наадварот—у разе чаго іншага пафатыгуецца сухапутна Радавая Расея...

І цяпер Літоўскі Сойм таксама заяўляе, што падставай яго сувэрэннасьці у Клайпэдзе зьяўляецца ня ласка Рады Паслоў, а „воля Літоўскага народу“... І ня польскай, трубіўшай віленскае „zwycięstwo“, публіцыстыцы дзівіцца, чаму гэта ад тэй рашучай „польскай“ формулы „амбасадораў“ 1923 г.: *„сьпярша вольны транзыт для Польшчы*, а *пасьля сувэрэнітэт для Літвы“*—цяпер, у 1924 г. *са згоды тых самых „амбасадораў“* асталося вельмі мала.—Бо, паводле рашэньня Рады Лігі, вялікія дзяржавы *„могуць“* але не *„павінны“* ўзалежніць сваю ратыфікацыю Конвэнцыі ад таго, ці *пусьцяць Польшчу ў Клайпэду праз Нёман, ці не*...

Клайпэдзкая справа аказалася вельмі падобнай да віленскай, толькі з тэй розьніцай, што Францыя зрабіла тады для Польшчы тое, што Англія зрабіла цяпер для Літвы...

---

Рада Лігі (гэта значыць—вялікія дзяржавы) вынесла ў Клайпэдзкай справе тое самае рашэньне, якое „амбасадоры“ (тыя самыя вялікія дзяржавы!..) лічылі яшчэ год назад „найвялікшай небясьпекай для міру і для памыснага разьвіцьця Клайпэды“...

З гэтага можна і трэба зрабіць адзін толькі, але вельмі важны, вывад, якога, на жаль, ня робяць нават найразумнейшыя польскія публіцысты: пагроза гэтай „небясьпекі“ з боку *магутнай* (*ад Францыі*)... Польшчы для шмат *слабейшай* Літвы зрабілася *зусім нястрашнай*, бо *за Літву, апрача Нямеччыны і Радавых Рэспублік, выразна стала і Англія*... У гэтым—галоўны *палітычны* зьмест пастановы Рады Лігі Народаў...

Сутнасьць *эканамічнага* паражэньня Польшчы ў Клайпэдзкай справе вельмі трафна формулюе той самы „Kur. Polski“.

Калі для Польшчы Клайпэдзкі порт патрэбны, каб нешта „прывязьці, злажыць і прадаць“, дык перадусім з Польшчы да Клайпэды *нічога не давязеш...*

Што-ж значыць гэтае рашэньне Клайпэдзкай справы з нашага беларускага пункту гледжаньня?

Як мы ўжо пісалі, нашыя беларускія абшары, далучаныя да сябе Польшчай, ствараюць з Клайпэдай *адзінае эканамічнае цэлае*, якое *ня можа быць надоўга разрэзана* тэй ці іншай блуднай і дзеля таго *нятрывалай* палітыкай, што апіраецца *на аружную сілу* проці законаў сусьветнай эканоміі, проці правоў і інтарэсаў збудзіўшыхся да самастойнага жыцьця народаў...

Нашыя беларускія абшары, нашыя лясныя басэйны ня могуць без Клайпэды ані жывіцца, ані дыхаць...

Раней ці пазьней яны павінны так ці інакш злучыцца...

І вось на нашых вачох толькі што праваліўся і назаўсёды адзін з магчымых—*польскі* вар‘янт гэтага злучэньня...

Бо—калі справа гэтага першага польскага вар‘янту гэтак хутка і „засадніча“, як слушна кажа „Kur. Polski“, „*пагоршылася*“ ў працягу аднаго апошняга году, дык можна ўжо, здаецца, зрабіць яшчэ адзін вельмі важны вывад, — што яна ўжо і *не палепшыцца... —*

Гісторыя і надалей пойдзе ў напрамку гэтага пагаршэньня...

І ня толькі магчыма, але і канешна, што аднача́сна з тым крахам гэтага вар‘янту зачынаецца, а можа ўжо і *дасьпявае* які другі...

Вельмі і вельмі цяжка, як мы пісалі, б‘е эканамічна крах гэтага польскага вар‘янту ня толькі Польшчу, але перадусім нашу Заходнюю Беларусь...

Але не малая пацеха для нашага Краю—у тым, што, закрыўшы цяпер свае вароты для Польшчы, беларускі Нёман, як быццам жывы і разумны гаспадар сваяго паняволенага Краю, *здалее гэтым зьберагчы свае лясы, сваё багацьце*—ад тэй рабунковай гаспадаркі, ад таго зьнішчажэньня, якім, з нейкай нездаровай, але сымбалічнай, сьпешнасьцю захапілася цяпер Польшча...

**А—О.**

## Новы курс „Вызваленя“.

„Wyzwolenie“ ўсё больш выразна выяўляе ў нас сваё чыста польскае аблічча. Беларуская афарбоўка, якую партыя прыняла была ў часе выбараў у Сойм, счэзла назаўтрае пасьля таго, як „вызваленцы“ галасамі беларускіх сялян атрымалі пасольскія мандаты.

Хаця сярод паслоў-„вызваленцаў“ ёсьць некалькі беларусаў, ды яны тамака ўтанулі ў польскай большасьці і голасу ня маюць.

Гожа адзначыць, што, як раней „Вызвалене“ старалася ў сваей дзейнасьці на Беларускай зямлі апірацца на маласьвядомых беларусах і нават выдавала сваю газэтку пабеларуску, так цяпер гэтая партыя вядзе ў нас чыста палянізатарскую работу. Усе друкі яе—выключна польскія. Дый замест агітатараў-беларусаў партыя прысылае ў Заходнюю Беларусь чыстакроўных палякоў—з Галічыны. Зусім таксама, як робіць урад, пасылаючы нам урадоўцаў „галілейцаў“, „пазнанцаў“ і інш.

Сьвежы факт—тое, што ў м. Глыбокім „Вызволене“ пасадзіла за свайго сэкрэтара такога „галілейца“, каторы ня толькі не гавора пабеларуску, але нават і не разумее.

## Адозва Цэнтральнага Саюзу Лёкатораў Польшчы.

Цэнтраля Саюзаў Лёкатораў Польшчы зьвярнулася да паслоў і сэнатараў з вельмі рэзкай адозвай, слушна закідаючы ім здраду ўсіх тых абяцанак—бараніць лёкатораў, што ўсе партыі давалі ў часе выбараў.

Прынятая Соймам Устава, кажа адозва, фактычна зьяўляецца новым падаткам, зусім фантастычна раскладзеным паміж розных слаёў працоўнага насяленьня; так званыя „вольныя ўмовы“ і дадатковыя паборы дамаўласьнікаў—на дворніка, ваду і інш., якія Устава пазбаўляе кантролю тых, хто мае плаціць іх; дапушчэньне Уставай высяленьня лёкатораў з зусім благіх прычын, робяць з яе новую узаконеную народным прадстаўніцтвам прыладу спэкуляцыі.

Закон, які дазваляе самаволі дамаўласьніка выкідаць з дому сям‘ю працаўніка,—што ў сучасных варунках раўняецца кары сьмерці — які руйнуе найбольш карысных працаўнікоў у гаспадарстве, зьяўляецца праступленьнем проці Краю.

Цэнтраля аб‘яднаных лёкатораў Польшчы дамагаецца перагляду Уставы, галоўны прынцып якой — абарона даху над галавой насяленьня, павінен быць захаваны прынамсі яшчэ ў працягу 10 гадоў.

Як ведама, гэты закон прайшоў у Сойме, дзякуючы таму, што польскіх спэкулянтаў Хьена-Пяста падтрымалі жыдоўскія...

# З Радавае Беларусі.

### Праца па прыёмцы тэрыторыяў.

Праца па ўключэньню ў склад БССР далучаемых тэрыторыяў праходзіць вельмі ажыўлёна. Прыняты рашучыя меры, каб дакладна падлічыць усё, што пераходзіць да Беларусі, пачынаючы з канчатковага ўстанаўленьня граніц, лічбы жыхарства і канчаючы падрабязным пералічэньнем усіх матар‘яльных срэдстваў.

Уся праца выконваецца камісіяй РНК Беларусі пад старшынством гр. Адамовіча.

Цяпер камісія ўжо скончыла працу па прыёму паветаў Гомельшчыны і прыступіла да прыёму Горацкага і Мсьціслаўскага паветаў Смаленскай губэрні.

Адначасна ў Віцебску пад кіраўніцтвам Віцебскага губ. вык. камітэту вядзецца падрыхтоўчая праца па пералічэньню маемасьці ўстановаў і прадпрыемстваў Віцебскай губ. Гэта праца скончылася 26 лютага.

### Надзвычайны Зьезд Беларускай Радавай Рэспублікі.

У нядзелю, 16 сакавіка закончыўся Надзвычайны шосты зьезд радаў пашыранай Беларусі. На зьезьдзе было прысутных 240 дэлегатаў з правам рашучага і 156 з правам дарадчага голасу і 289 гасьцей. Усе прапазыцыі і дэклярацыі прыняты аднагалосна. Як паведамляе Pat, у выступленьнях дэлегатаў і прывітаньнях розных арганізацыяў успаміналася аб беларусах, якія яшчэ знаходзяцца пад ярмом польскай буржуазіі, для якіх павінен прыйсьці час злучэньня з незалежнай Радавай Беларусяй. Выбрана 120 дэлегатаў у Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі.

Зьезд прыняў рэзалюцыю, даручаючую ўраду ўзмацаваньне працы над направай гаспадарчага палажэньня Беларусі і ўтварэньне сельска-гаспадарчага банку.

Паседжаньне новага Цэнтр. Вык. Камітэту адбылося зараз-жа пасьля зачыненьня зьезду. Старшынёю Ц. В. К. выбраны Чарвякоў, сэкрэтаром—Сташэўскі; Старшынёю Рады Народных Камісараў—Адамовіч; Камісарам Асьветы — Ігнатоўскі, Земляробства — Гэльтман, Унутраных спраў — Чарнушэвіч, Справядлівасьці—Гэтуч, Здароўя—Станкоўскі.

# З беларускага палітычнага архіву.

Падзел Беларусі, які цяперака істнуе, прыводзе на памяць той мамэнт нямецкае акупацыі, калі праз усю нашу Бацькаўшчыну, моў стужка крывавая, праходзіла лінія ваеннага фронту. І тады, як цяпер, Заходняя Беларусь з Вільняй была адрэзана ад Усходняе, і тады, як цяпер, дарога з Вільні ў Менск была зачынена. Але паміж тагачасным і сучасным палажэньнем абедзьвюх падловаў Беларусі ёсьць і адна глыбокая розьніца: *тады* на ўсходзе афіцыяльна была йшчэ не Беларусь, а „Сѣверо-Западный Край“, на захадзе акупацыйная ўлада афіцыяльна прызнала правы беларускага народу, і ў Вільні расьцьвітала ідэя самастоўнага дзяржаўнага будаўніцтва краю; *цяпер*, наадварот, Заходняя Беларусь афіцыяльна перахрышчана ў „Усходнія Землі“, або „Усходнія Крэсы“, і беларусы тут пазбаўлены ўсіх правоў,—а на ўсходзе йдзе фактычнае зьдзейсьненьне беларускае дзяржаўнае ідэі, ідзе будаваньне і аб‘яднаньне Беларускае Рэспублікі.

Страніца гісторыі перавярнулася. І ў той мамэнт, калі беларускі работнік і селянін мазалістай рукой сваей упісывае ў кнігу сусьветнае гісторыі імя сваей Бацькаўшчыны, *як рэальна істнуючай дзяржавы*, аб‘яднанай у братні саюз з суседзямі,—у гэты мамэнт гожа ўспомніць, якія ідэалы беларускага грамадзянства запісаны па папярэдняй, цяпер ужо пераверненай жыцьцём страніцы.

Мы бярэм ступь адзін дакумэнт, у якім мо‘ найбольш ярка выявілася палітычная думка беларускага грамадзянства Віленшчыны і Горадзеншчыны ў часох нямецкае акупацыі. 25, 26 і 27 студня 1918 году ў Вільні адбылася беларуская канфэрэнцыя, якая аб‘яднала ўсе істнаваўшыя тутака беларускія палітычныя кірункі і групы. Канфэрэнцыя ня ведала йшчэ аб усебеларускім зьезьдзе ў Менску, ня ведала аб зачатках тамака шырокае нацыянальнае і дзяржаўнае працы і не магла прыняць гэтых новых праяваў пад увагу. І вось зусім самастойна, апіраючыся ў першы чарод на чыста эканамічных падставах і пратэстуючы проці імкненьня Нямеччыны далучыць да свайго дзяржаўнага арганізму акупаваныя землі, канфэрэнцыя прыняла гэткую рэзалюцыю:

„Цьвёрда веручы, што толькі поўная дзяржаўная незалежнасьць можа забясьпечыць Беларускаму народ магчымасьць усестароннага эканамічнага і культурнага разьвіцьця, і прынімаючы пад увагу:

1) што Беларуска-Літоўскія землі, незалежна ад лініі фронту, становяць суцэльны праўна-дзяржаўны і эканамічна-гаспадарчы комплекс, утвораны вякамі, як з прычыны супольнай дзяржаўнасьці—ў постаці незалежнага В. Кн.-Літоўскага, так і з прычыны географічных варункаў, супольнай сыстэмы дарог — чыгунак, рэк, шоссэ і т. п. і супольнай таргова-прамышленай арганізацыі;

2) што агульныя эканамічныя варункі жыцьця краю вымагаюць свабоднага доступу да мора, сыстэма-ж дарог і рэк зьвязывае яго асабліва з портамі Балтыцкага мора праз Курляндыю;

3) што пры сучасных варунках жыцьця народаў толькі адбудова ўтрачанай дзяржаўнасьці злучаных у адно Беларуска-Літоўскіх зямель можа забясьпечыць нашаму краю і яго народам магчымасьць свабоднага і ўсестароннага разьвіцьця;

4) што ўсе акупаваныя Беларуска-Літоўскія землі становяць аснову колішняга незалежнага В. Кн. Літоўскага, каторае ўжо пры сваіх нарадзінах складалася з двух народаў: літоўскага і беларускага, сабраўшыяся на канфэрэнцыю ў Вільні 25. I. 1918 г. прадстаўнікі беларусаў з акупаванай часьці краю, апіраючыся на апавешчаным дэмакратыяй і прызнаным ужо ўрадамі прынцыпе самаазначэньня нацыянальнасьцяў, высказаваюць дамаганьне, каб Беларуска-Літоўскія землі акупацыі станавілі незалежную сувэрэнную дэмакратычную дзяржаву, зложаную з дзьвюх аснаўных аўтаномных нацыянальных тэрыторый: Беларускай і Літоўскай, у найцясьнейшай еднасьці з незалежнай Курляндыяй — з тым, каб правядзеньне ў жыцьцё гэтых дамаганьняў належала да скліканага ў Вільні на аснове агульнай, простай, тайнай, беспасярэдняй і прапорцыянальнай падачы галасоў паводле нацыянальных курый Устаноўчага Сойму Беларусі і Літвы.

„Канфэрэнцыя горача жадае, каб — у імя права на непадзельнасьць беларускага народу, разрэзанага лініяй фронту, і ў імя еднасьці ўсіх Беларуска-Літоўскіх зямель—да памянёнай гасударственай арганізацыі, заўсёды станавіўшай ядро В. Кн. Літоўскага, была далучана і рэшть Беларускіх зямель, як часьць да цэлага. У мысла гэтага, Канфэрэнцыя зьвяртаецца да зарубежных беларусаў з гарачым прызывам супольна дабівацца спаўненьня памянёных дамаганьняў.

„Канфэрэнцыя заяўляе, што яна не прызнае за голас Літоўска-Беларускага Краю пастаноў Літоўскай Рады *) і не прынімае на сябе выданых ею палітычных абязацельств“.

Як бачым з гэтае рэзалюцыі, беларускія палітычныя дзеячы шэсьць гадоў таму назад спадзяваліся, што *будаваньне беларускае дзяржаўнасьці распачнецца на Захадзе* — і то ў сувязі з літоўскім народам, а такжа ў цесным аб‘яднаньні з латышамі. Віленскія беларусы працягівалі сваю руку зафронтавым братом, заклікаючы іх да напружаньня ўсіх сіл, каб дружным напорам зламаць той мур штыхоў, які нас тады дзяліў.

За шэсьць гадоў зрабіліся, аднак, такія вялізарныя перамены ў жыцьці Заходняе і Ўсходняе Беларусі, што роля іх у агульна-нацыянальным беларускім жыцьці рэзка зьмянілася. Ужо ў сакавіку таго-ж году Рада Рэспублікі ў Менску на гістарычным сходзе сваім (25 сакавіка) абвяшчае *незалежнасьць усяе Беларусі*, і ў гэтым акце прыймае ўчасьце прадстаўніцтва Заходняе Беларусі, на мамэнт аб‘яднаўшаеся з Усходам. А 1 студня 1919 году *за будаўніцтва свaей дзяржавы—Радавае Беларусі—бярэцца беларускі работнік і селянін*, і на нашых вачах расьцьвітае вялізарная творчая культурная і дзяржаўная беларуская праца, вынікам якое зьяўляецца апошняе далучэньне да менскага цэнтру Віцебшчыны, Смаленшчыны, Гомельшчыны.

*Дзяржаўная ідэя рэалізуецца не на Захадзе, а на Ўсходзе.* І супрацоўнічаюць з Беларусяй ня Літва і Латвія, а Вялікарасея і Ўкраіна.

Цяпер ужо Усходняя Беларусь заклікае да аб‘яднаньня Заходнюю. Але, хоць аўтары прыведзенае рэзалюцыі віленскае канфэрэнцыі памыліліся ў разьвязцы пытаньня, *каму* выпадзе на долю *рэалізацыя беларускае дзяржаўнасьці*,—іх эканамічныя падставы і разважаньні ня страцілі сваей аб‘ектыўнай вартасьці. Бо „агульныя эканамічныя варункі жыцьця“ як Заходняе, так і Ўсходняе Беларусі ў роўнай меры „вымагаюць свабоднага доступу да мора, сыстэма-ж дарог і рэк зьвязывае яе асабліва з портамі Балтыцкага мора“.

Гэтыя варункі і надалей будуць прымушаць беларускую дзяржаўную думку ісьці па шляху, вызначанаму шэсьць гадоў таму назад.

Тут гожа будзе адзначыць дужа цікавы паварот у паглядах палітыкаў суседняга з намі і братняга нам Літоўскага народу. Прыведзеную рэзалюцыю тагачасныя кіраўнікі літоўскае палітыкі ў Вільні (за часоў нямецкае акупацыі) сустрэлі, наагул, няпрыхільна. І гэта лёгка зразумела: трэба толькі прыпомніць, што гэта быў час закладзін літоўскае *нацыянальнае* дзяржавы, і нацыянальная гордасьць літвіноў выключала думку аб сувязі з другім народам. Але колькі гадоў дзяржаўнага жыцьця Літвы паказалі, што на аднэй толькі нацыянальнай падставе, не ўважаючы на эканамічныя вымогі жыцьця, вельмі трудна і рызыкоўна будаваць дзяржаўную арганізацыю. І вось, у ковенскай газэце „Lietuvos Žinios“ мы ў апошніх часох сустракаем дужа характэрныя выступленьні паважных палітыкаў, якія зусім выразна гавораць аб *Літоўска-Беларускай Фэдэрацыі...*

Запраўды, часамі ня шкодзе пакапацца ў пыле архіваў: нават з палітычных абмылак мінуўчшыны можна выцягнуць карысьць—навуку для будучыны.

**А. Н.**

*) Тарыбы.

# Навакола пашырэньня Радавае Беларусі.

## Віцебшчына далучана да Б. С. С. Р.

## Віцебшчына на пераломе

Віцебшчына папала пад уладу Маскоўскага самаўладзтва ў 1773 годзе. З тэй пары яна ўвесь час „русыфіцыравалася“. К пачатку XX веку Віцебшчыну, як і ўсю Беларусь, сталі лічыць „искони русским краем“. Велікадзяржаўныя Маскоўскія традыцыі перайшлі, як пяражытак, і да Р. С. Ф. С. Р., у склад якое ўваходзіла да апошніх часоў уся Віцебская губ.... Аб беларускасьці гэтай губ. у Віцебску ня можна было гаварыць, бо губіспалком лічыў, што „обрусение“ віцебскіх беларусаў зайшло так далёка, што назад вяртацца ня варта. Школы беларускія не адчыняліся. Невялікі лік беларусаў культурнікаў на Віцебшчыне прымушаны быў шукаць працы... ў Менску. Калі паднялося пытаньне аб перадачы Віцебшчыны пад уладу Менску, Губіспалком быў увесь час проці гэтага. Але дальназоркая нацыянальная палітыка Маскоўскага ўраду ўзяла верх над пяражыткамі велікадзяржаўнасьці, і 4 сакавіка Віцебшчына перайшла да Беларускай Рэспублікі. Гэты дзень будзе бязумоўна гістарычным днём для таго мільёну беларусаў, што будуць цяпер мець магчымасьць разьвіваць сваю культуру.

Як-жа прыняло беларускае жыхарства Віцебшчыны далучэньне да Беларусі?

Ніжэй мы друкуем вельмі цікавыя матар'ялы, якія даюць пэўны адказ на гэтае запытаньне. З іх відаць, што пераход на новыя беларускія рэйкі праходзіць спакойна. Больш таго. Адчуваецца бязьмерная радасьць народных масаў. Пачынае біць сьвежаю крыніцаю новае культурнае жыцьцё. Нібы з цёмнага падвалу, з пратухлага гістарычнага падвалу выходзіць беларус на сьвежае паветра... І мімаволі просіцца на язык бадзёрая думка: *Калі пяць вякоў акупацыі ня вырвалі з беларуса яго душы і сэрца—дык ня страшны нам і сягоньняшнія адміністратары „Крэсаў“.*

**В. В—і.**

## Акт аб перадачы Віцебшчыны.

4 сакавіка 1924 году Старшыня Паўнамоцнай Камісіі Рады Народных Камісараў Беларускае Рэспублікі Адамовіч з аднаго боку, а старшыня Віцебскага Губіспалкому з другога падпісалі акт аб перадачы Віцебшчыны Радавай Беларусі. Згодна з гэтым актам, да Радавае Беларусі перайшлі: Віцебскі, Аршанскі, Полацкі, Лепельскі, Гарадокскі, Сеньненскі, Сураскі і Дрысенскі паветы.

Пытаньне аб перадачы Веліжскага, Себежскага і Невельскага паветаў перададзена на распараджэньне Усерасейскага Цэнтр. Выкан. Камітэту і Цэнтр. Выкан. К—ту Беларускай Рэспублікі, як пытаньне спрэчнае.

Па статыстычным даным у далучанай да Беларусі частцы Віцебшчыны маецца:

Жыхарства 1.093.426 чалавек, з іх: вясковага — 896.241, а гарадзкога — 197.185; сялянскіх гаспадарак—171.864; прамысловых прадпрыемстваў — 2.719, школаў першай і другой ступені —1.235; бальніц—26.

## Гістарычны момант.

Перадавіца пад гэткім загалоўкам у „Витебских Известиях“ паведамляе аб прыезьдзе ў Віцебск прадстаўнікоў беларускага ўраду дзеля азнаямленьня са становішчам губэрні. Зазначыўшы, што Віцебская губэрня ўвойдзе ў склад Савецкай Беларусі, аўтар перадавіцы кажа:

„Віцебская губэрня здаўна лічылася беларускай. Падаўляючую большасьць яе жыхарства складаюць беларусы. І апошнія, бязумоўна, будуць вітаць далучэньне Віцебшчыны да Беларусі. Бо мы напэўна ведаем, што сярод жыхарства маецца прага да Беларусі, да беларускай культуры, да беларускай мовы“.

Далей перадавіца спыняецца на тых пэрспэктывах, якія чакаюць Віцебшчыну ў зьвязку з далучэньнем яе да Савецкай Беларусі.

„Далучэньне да Беларусі палегчыць для сялян-беларусаў нашай губэрні магчымасьць будаваць школу ў роднай мове і паднімаць свой культурны ровень. Далучэньне будзе мець вялікае значэньне ў сэнсе эканоміі народных сродкаў, дзякуючы скарачэньню і ўпрашчэньню савецкага і гаспадарчага апарату“.

## Старшыня Беларускага Ураду Чарвякоў у Віцебску.

### Гутарка Чарвякова з рэдактарам „Витебских Известий“.

У гутарцы з рэдактарам віцебскіх „Известий“ Чарвякоў заявіў:

„Мы прыехалі ў Віцебск, каб устанавіць тую смычку з партыйнымі, прафэсыянальнымі і савецкімі органамі, якая так патрэбна ў справе арганізацыі працы на абшарах пашыранай Савецкай Беларусі. Гэта наша першая задача“.

Другою задачаю Чарвякоў лічыць афармленьне, завяршэньне акту далучэньня Віцебшчыны да Б.С.С.Р. у арганізацыйным парадку. Гэта будзе зроблена на Ўсебеларускім Зьезьдзе Саветаў.

Далей Чарвякоў пераходзіць да плянаў ураду адносна адміністрацыйнай пабудовы пашыранай Беларусі і да пытаньня, якое асабліва зацікавіць жыхарства Віцебшчыны, да пытаньня беларусізацыі.

**Новы адміністрацыйны падзел.**

„Я думаю,—кажа Чарвякоў,—што нават пры павярхоўным знаёмстве з аб'яднанымі тэрыторыямі кожны зразумее, што сучасны адміністрацыйны падзел пашыранай Беларусі ня можа адпавядаць задачам пляновай і сыстэматычнай гаспадаркі.

Калі пакінуць тыя адміністрацыйныя адзінкі, якія цяпер увайшлі ў Беларускую рэспубліку, то тады цэнтральнаму ўраду прыдзецца ўваходзіць у непасрэдныя зносіны з губэрняй, з паветамі, нават з валасьцямі. З такім становішчам можна будзе прымірыцца толькі на першы час.

Дзеля гэтага мы павінны наперад падрыхтавацца да пераходу на новы адміністрацыйны падзел. Ёсьць два праекты.

Па першаму праекту Беларусь падзеліцца на 8 акругоў. Другі праект лічыць патрэбным захаваць істнуючыя паветы, надаўшы ім функцыі акружных цэнтраў.

**Пытаньне аб беларусізацыі.**

„Мне казалі, што пытаньне аб беларусізацыі зьяўляецца жупелам, якім лёгкаверныя людзі стараюцца напалохаць такіх самых лёгкаверных людзей пры гутарцы аб пашырэньні Б.С.С.Р.“.

Я хачу, каб у гэтым пытаньні ня было ніякай двохсэнсоўнасьці.

*У нас, у Меншчыне, пытаньне аб беларусізацыі—пытаньне прыбліжэньня Савецкай улады да масаў рабочых і сялян.*

Мы на Беларусі не гаворым аб беларусізацыі, як аб прымусу. Гэта было-б злачынствам з нашага боку.

Мы гаворым аб зразумелай, роднай мове — мове жыхарства. У нас няма закону, які даваў-бы беларускай мове якую-небудзь перавагу. У нас ёсьць дэкрэт, якім усе мясцовыя мовы—беларуская, жыдоўская, расейская і польская—прызнаюцца раўнапраўнымі.

Таксама, як дзеці павінны вучыцца ў роднай мове, так рабочыя і сяляне павінны кіраваць сваёю дзяржаваю ў зразумелай для іх мове. Інакш будзе ўлада не рабочых і сялян, а толькі ад іх імені.

Вось, як стаіць у нас пытаньне аб беларусізацыі“.

## Віцебск у дні перадачы.

### Лекцыі Максіма Гарэцкага. Спэктаклі ў беларускай мове.

Далучэньне Віцебшчыны да Беларусі зацікавіла ўсё жыхарства. Сьпярша ўсіх цікавіла думка, якія паветы далучаць, а пасьля зьдзівіліся, што такія паветы, як Віліж, Невель, дзе большасьць людзей чыста беларуская, але на паперы запісаліся рускімі, не далучаюцца. Шырокія колы вясковага грамадзянства гэтых паветаў занепакоілася: „дзяды і прадзеды нашы зналіся і пісаліся ў Віцебску, а нас цяпер шлюць кудысьці ў Пскоўскую губэрню“.

Зьбіраюцца клапатаць, каб не разлучыцца з Віцебскам.

У самым Віцебску беларускае слова пачулася ў Пэдагагічным Інстытуце: лекцыі Гарэцкага, Мялешкі, асабліва Лёсіка, зацікавілі студэнтаў і адкрылі новыя пагляды на беларускую мову. Ня гледзячы на тое, што лекцыі чыталі 3-му курсу, аудыторыі Інстытуту былі напоўнены ня толькі студэнтамі, але і прыватнымі грамадзянамі. Разам са студэнтамі зацікавілася Беларусьсю тутэйшая газэта „Известия“, якая зьмясьціла вялікую статью: „Что такое Белоруссия и кто такие белоруссы“. Вялікае ўражэньне на грамадзян зрабіў прыезд у Віцебск старшыні Рады Народных Камісараў Беларусі, Чарвякова, Ігнатоўскага і іншых. Невялічкі вагончык № 46, у якім жылі яны на вакзале, цэлы тыдзень цэнтраваў усе думкі віцеблян. Лекцыі Асаткіна ў клюбе Губкому і справаздача Чарвякова на пашыраным пленуме Губпрафсавету і ў гуртку карэспандэнтаў „Известий“ крыху асьвятлілі справу пашырэньня Беларусі.

Пачынаецца беларуская праца. Драмгурткі ставяць спэктаклі на беларускай мове. Усе бяруцца за беларускую граматыку, гісторыю.

Вучні Гарадской школы 2 ступені паставілі на сваёй вечарынцы „Паўлінку“ Я. Купалы, якая прайшла з вялікім посьпехам.

Віцебскі павятовы аддзел асьветы праектуе ў траўні арганізаваць курсы беларусазнаўства.

### У работніц фабрыкі „Двіна“.

Народу—поўна. Загадчыца жаночага аддзелу Муратава рабіла даклад аб значэньні пашырэньня Беларусі.

З увагаю слухаюць даклад.

Пад гучныя воплескі сход даручае Муратавай прывітаць работніц Менску ад імя работніц фабрыкі „Двіна“.

### Сход віцебскай моладзі.

28-га лютага ў партыйным клюбе адбыўся агульнагарадзкі сход моладзі.

З дакладам аб пашырэньні Савецкай Беларусі і аб задачах моладзі выступіў Арэхва.

„Няхай жыве беларуская моладзь! Няхай жыве Радавая Беларусь!—заканчывае Арэхва свой даклад.

Пасьля адказу дакладчыка на розныя запытаньні сход аднагалосна прыняў рэзалюцыю, у якой горача вітае стварэньне супольнай, моцнай Беларусі.

### Работнікі каапэрацыі вітаюць.

Першае пытаньне чарговага агульнага сходу супрацоўнікаў Губсаюзу каапэратываў—аб пашырэньні Савецкай Беларусі.

Аднагалосна прынятая рэзалюцыя вітае пастанову Зьезду Савету аб пашырэньні тэрыторыі Савецкай Беларусі.

## У. Ігнатоўскі у Полацку.

Полацк спаткаў прадстаўнікоў Менску Ігнатоўскага і Ашаровіча вельмі горача. У часе прабываньня іх у Полацку адбыліся конфэрэнцыі і сходы па пытаньню аб далучэньні Полацкага павету да Беларусі. Спачатку Ігнатоўскі выступаў перад прадстаўнікамі сялянства, якія былі вельмі задаволены яго дакладам і задавалі яму шмат запытаньняў і асабліва цікавіліся пытаньнем беларускае школы. З пад'ёмам энэргіі раз'ехаліся валасныя працаўнікі па вёсках расказаць сялянству, што пачынаецца новая эпоха ў яго жыцьці.

### Урачысты сход рабочых у тэатры.

Вялікі тэатр быў запоўнены народам. Першы выступіў Ігнатоўскі. Гэты народны прамоўца, у поўным сэнсе гэтага слова, гаворыць лёгка, проста і зразумела. Гаворыць ня толькі розуму слухача, але і яго душы. Ён апавядае, як беларускі мужык стагнаў пад уціскам акупантаў.

— На нас глядзелі, як на халопаў. Нашу мову зьневажалі. „Это мужицкий язык“,—казала нам буржуйная інтэлігенцыя.

Але гэты „мужыцкі язык“, — казаў далей гр. Ігнатоўскі—вельмі дарагі нам таму, што на ім гавораць мільёны працоўных грамад.

Прамова зрабіла моцная ўражаньне.

Выступалі беспартыйныя рабочыя.

— Пашырэньне Беларусі,—гаварылі яны, — паказвае, што толькі Савецкая ўлада дае вольнасьць прыгнечаным нацыянальнасьцям.

Сход у сваёй рэзалюцыі вітае пастанову аб далучэньні Полацкага павету да Беларусі.

Настрой узьняты. Публіка не разыходзіцца. У неагрэтым тэатры стала неяк цяплей...

### Рэзалюцыі Полацкіх рабочых.

Заслухаўшы даклады прадстаўнікоў Ураду Беларускай Рэспублікі Ігнатоўскага і Ашаровіча аб пашырэньні Савецкай Беларусі, аб'яднанае пасяджэньне пленумаў Полацкага Гарсавету і Павятовага Прафэсыянальнага Бюро, супольна з фабзавкомамі і ўпаўнаважнымі ад рабочых і служачых, вітае пастанову вышэйшых партыйных і савецкіх органаў аб далучэньні гораду Полацка і яго паветаў да Савецкае Беларусі, грунтуючыся на тым, што Полацк і Полацкі павет з боку эканамічнага і культурна-бытавога прагнуць да Беларускай Рэспублікі.

У гэты гістарычны важны пераходны момант мы заклікаем усіх рабочых і працоўных Полацка і павету прыйсьці на дапамогу дзяржаўным органам Б.С.С.Р. у справе правядзеньня намечанага збуйненьня Беларусі.

Мы перакананы, што творчая праца, якая усімі намі будзе выяўлена ў справе збуйненьня Беларусі, прывядзе да палепшаньня гаспадаркі нашай Рэспублікі. Узмоцнім смычку рабочых гораду з беларускім сялянствам нашага павету.

Мы заяўляем, што ідэя збуйненьня Беларусі зьяўляецца адзіным вырашэньнем нацыянальнага пытаньня для ўсіх народнасьцяў, якія жывуць у нашым краі.

